

# СТАЛІНСКІЯ ШКОЛЫ.

Толя Паляцкін, Клава Сянчук і яшчэ некалькі рэбят III-в класа чакаюць у чыстай светлай залі фізкультурніцы. Яны самі захацелі падрыхтаваць некалькі фізкультурных нумароў да Кастрычніцкага вечара, і цяпер прышлі на заняткі.

І Толя, і Клава раней не вучыліся ў гэтай новай, прыгожай школе. Яны хадзілі вучыцца з Серабранкі (акраіна Менска) у цэнтр горада. Тады 29 ая НСШ змяшчалася ў трох невялікіх дамах. Класы ў іх былі цесныя ды і самі дамы знаходзіліся далёка адзін ад аднаго. Бывала, трэба фізкультурную зарадку праводзіць, дык бяжы з аднаго дома ў другі.

А цяпер школа змяшчаецца ў адным прасторным двухпавярховым цагляным будынку. У ёй вучыцца больш за 800 вучняў Гэта новая школа пабудавана па ініцыятыве нашага вялікага настаўніка Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Шэсць такіх сталінскіх школ пабудавана сёлета ў адным толькі Менску.

Рэбяты вельмі рады, што школа блізка каля іх дому.

— Я каля аптэкі жыву. Мне ўсяго цяпер дзесяць хвілін патрэбна, каб прысці ў школу, а раней—гадзіна,—кажа Толя.

— А мне яшчэ бліжэй—праз вуліцу перайшоў і школа,—радуецца Клава.

І задаволеныя рэбяты расказваюць, што ў іх цяпер стала больш вальнейшага часу для чытання цікавых кніжак, што ў такой школе і вучыцца ахватней.

**Н а з д ы м к у—новапабудаваная сталінская НСШ на Серабранцы.**

# КАВАЛЬ ВЯРНІДУБ

*Казка А. Якімовіча*
*Рысункі В. В. Волкава*

I.

Не далёка і не блізка,
Там, дзе сонца ходзіць нізка,—
Адным словам, за марамі,
За лясамі, за гарамі
Жыў ды быў сярдзіты цар,
Той краіны уладар.

Ў раззалочанай кароне
Ён сядзеў сабе на троне,
Ад зары і да зары
Люльку срэбную курыў
І другой не ведаў працы.
А навокала палацаў,
Праліваўшы горкі пот,
Знемагаў яго народ.
Дні і ночы без спачыну
У няволі гнуў ён спіну,
Пад крывавым бізуном,
На цара і на паноў.

Так жылі ды пажывалі,—
Гаравалі ды ўміралі...
Праміпаў за годам год.
Але вось настаў няўрод...




Як агнём шугае сонца,
Жарам дыхае бясконца.
Перасохла ўся зямля,—
Пуста, гола, дзе ні глянь:
Ні збажынкі, а ні кветкі—
Зачарнеліся палеткі.
З дрэў апалі ўсе лісты,
Агаліліся кусты.
І ад лютай галадухі
Гінуць людзі, нібы мухі.

Напалохаўся тут цар,
Выклікае ён баяр.
І гаворыць гнеўна цар ім:
„Справа кепская, баяры...

Ўсіх нявольнікаў ад нас
Забірае смерць не ў час.
Я баюся, мае слугі,
Каб праз гэту галадуху
Не прышлося нам патом
Працаваць сваім гарбом.
Вас сабраў я на нараду:
Што рабіць, якую раду,
Мае другі і браты,
Прыгадаць нам ад бяды?"

Апусціўшы ў зямлю твары,
Доўга думалі баяры,
Барадамі трасучы,
Як бядзе дапамагчы
Так, каб царскія каморы
Былі поўнымі як горы,
І сваіх засекаў збожжа
Каб ніхто не патрывожыў.
А пасля вось, пад канец,
Найстарэйшы з іх мудрэц
Вочы ўгору узнімае
Ды спаважна заяўляе:
„Ты паслухай мяне, цар,
Найслаўнейшы гасудар,
Знаю спосаб я—павер мне—
Самы просты, самы верны:
Загадай знішчаць дзяцей
Ды карміць тваіх людзей!
І яды будзе даволі..."
„Дзякуй, дзякуй, лепш ніколі
Не прыдумаў з вас ніхто-б!"
Стукнуў пальцам цар у лоб.

І, задаволены парадай,
Піша, піша ён загады,
Каб знішчаць малых дзяцей
Ды карміць імі людзей.
Рассылае сваіх катаў
Тыя выканаць загады.
І для дзетак-малышоў
Час жахлівы надышоў...

II

А жыла была ў тым краі,
Нібы ў лузе кветка-краска,
Прыгажуня маладая
Чорнабровая Параска,
Што, як смерці жудкай цень,
Катаў царскіх з дня на дзень,
Засмучоная, чакала,
Як-жа быць ёй?—разважала.
Аддаць радасць і уцеху
Лютым катам на пацеху?
Як сустрэць гэту бяду?—
Галава шуміць ад дум.
Ці-ж здалее сэрца маці
Смерць любімага дзіцяці
Перанесці, перажыць?
Што-ж парадзіць, як-жа быць?

Доўга думала Параска,
Сохла, вяла, нібы краска
У асеннія часы
Без цяпла і без расы.
Доўга думала, гадала,
Рэчкай слёзы пралівала
З пераплаканых вачэй
Многа дзён яна, начэй.

І наважыла Параска
Не здавацца катам царскім,
А, пакуль яшчэ ільга,
Ратавацца як мага.

Пазбіраўшы ўсе манаткі,
Яна ў пушчу без аглядкі
Ляціць лётам, як страла,
З свайго роднага сяла.
Там гадзіну і другую
Завіхаецца, будуе
Так, на скорую руку,
Хатку з моху, лазняку.

Збудавала. Паглядзела—
Уся ад шчасця пасвятлела:
Згінуў сум і згінуў страх,—
Радасць свеціцца ў вачах.

І бяглянка маладая
Пышнай кветкай расцвітае:
Стала пушча ёй мілей
За сяло і за людзей.
Нібы ў маткі сваёй роднай,
Найжаданую свабоду



Здабыла яна ў цішы,
Ў гэтым цесным шалашы,
У дрымучай пушчы цёмнай,
Дзе прасторна і спакойна.

Недалёка-ж, ля дупла,
Тут мядзведзіца жыла.
Вось на заўтра на світанні
Звер сышоў на паляванне,

Каб дзе мяса раздабыць,
Медзвянятак накарміць.
А Параска—маладзіца
Ў недалёкую крыніцу
Па студзёную ваду
Вышла зранне. На-хаду
Песні радасці спявае,
Уся ад шчасця сонцам ззяе.

Раптам чуе—штось вурчыць,
Дзікім голасам пішчыць.
Аглянулася—што-б гэта?—
Бачыць воўка-дармаеда.

Хвост прыцiснуўшы да ног,
Разбурае ён бярлог,
І падлеткаў-медзвянят
Стаў з бярлога выганяць.
Натапыраны, надзьмуты,
Вые люта, ходзіць крута.
Тут Параска з-за лаўжка
Ды знячэўку на ваўка
Калі крыкне, калі гукне,
Ды нагамі калі тупне,—
Воўк драпежны аж умлеў,
З перапуду скамянеў.

А тым часам, неўзабаве
Мчыць мядзведзіца з аблавы.
Па імхах, па верасах,
З зайцам шэрым у зубах.
Калі ўбачыла Параску,
Прывітала яе з ласкай,
І падзякавала ёй,
Як сяброўцы дарагой:
„Што дзяцей адратавала
Ад ваўка таго, нахала,
Не забуду век цябе,
Памагу ў бядзе й табе".
„Калі ласка, калі ласка",—
Адказала ёй Параска
Ды хутчэй да шалаша,
Да малюткі-малыша
Зноў спяшаецца-шагае.
Доўга песціць, абнімае
Там сынка яна свайго,
Не нацешыцца з яго.

І на славу рос хлапчына
Не па днях, а па гадзінах.
Ды такі стаў удалец,
Ды такі стаў маладзец,
Што ні ў казцы расказаць,
Ні пяром не апісаць.
Ўвесь праменіцца, іскрыцца.
На яго не надзівіцца.
На патыліцу глядзі—
Срэбны месяц зіхаціць.
Абялявае чало
Ззяе сонечным святлом.

Ну, а сіла, сіла тая,
Што ні міг, дык прыбывае,
Цераз месяц, як грыбы,
Вываравчаў ён дубы.
І Параска з той часіны
Вярнідубам свайго сына
Стала горда называць,
Яшчэ болей шанаваць.
Проста воч не зводзіць маці
З дарагога ёй дзіцяці.

Дружна ў згодзе з той пары
Зажылі ўсе як сябры—
Карапузы-медзвяняткі
Ды з мядзведзіцаю-маткай,
І Параска з Вярнідубам—
Ажно глянуць на іх люба!
Мядзведзіца дзесьці з гаю
Кожны дзень сабе цягае
З вульляў—пасечных калод—
Залацісты, свежы мёд.
Суравежкі і суніцы
Зарадзілі ля крыніцы
Густа так—куды ні глянь—
Счырванелася зямля.
Іх Параска сабірала,
Ўсю сямейку частавала.
Аж аблізывалі рот,
Калі елі з грыбам мёд,
Такі свежы і душысты,
Такі чысты, залацісты;
Сам у роце раставаў,
Як віно ён ап'яняў.
Не хапала толькі хлеба,
Круп ды солі на патрэбу.
Але-ж гэта поўбяды
Для дружацкае яды.

І вяселіцца бяглянка
Да вячэрніх зор ад ранку.
Песні звонкія свае
Вольнай птушкаю пяе:
„Чаму-ж мне не пець,
Чаму-ж не гудзець,
Калі ў нашай пушчы
Парадак ідзець..."



Ёй мядзведзіца старая
Хрыплым басам падпявае:
„Смачны заяц, смачны кот,
Ды смачней пчаліны мёд—
Такі свежы і душысты,
Такі чысты, залацісты"...

Вярнідуб-жа на дудзе,
А ці ўвечар, а ці ўдзень,
Як зайграе—лес трасецца,
Усё вяселіцца, смяецца.
Ад дзівоснае ігры
Моўкнуць птушкі і звяры,
І падлеткі-медзвянятки
Яму пляскаюць у ладкі.

*(Працяг будзе).*



# ЯК ДЗЕД СІВОХА ЛЯТАЎ



*Апавяданне В. Каваля* *Рысункі А. Волкава*

Наш самалёт пакружыў у паветры і стаў паволі апускацца на зямлю.

— Трымайся, Сёмка!—пад шум матора крыкнуў мне Федзька.

Мы апускаліся на гладкую скошаную сенажаць, непадалёк ад вёскі. Вялікі натоўп людзей ужо, відаць, чакаў нас. Людзі варушыліся і махалі нам рукамі.

Гэта была наша вёска, адкуль мы дзесяць год таму назад вышлі зусім хлапчукамі. Мы даўно не былі тут. Як цяпер жывуць нашы людзі? Што робіць стары жартаўнік—дзед Сівоха? Ох, гэты дзед Сівоха! Ён заўсёды жартаваў з нас, падманьваў нас. А калі мы адыходзілі ў горад вучыцца, дзед Сівоха ўздыхнуў і сказаў:

— Хо-хо... пайшлі нашы хлопцы ў шырокі свет, як у капейку... Толькі хаця дзеда Сівохі не забывайце, шылахвосты!

— Хітры, але справядлівы дзед!—сказаў пра яго Пецька.

Самалёт з лёгкім шумам апусціўся на сенажаць і прабег некалькі сажняў. Калі мы спыніліся, нас ужо акружалі з радасным крыкам хлапчукі. Потым падбегла моладзь, потым паважна падышлі старыя.

— Гэта-ж нашы! Сёмка і Федзька! Прывітанне, хлопцы! Ура! Ай ды хлопцы!—пачулася з усіх бакоў.

Федзька вылез з кабінкі, паправіў рукой шлем і горда сказаў:

— Вітаю ўдарнікаў калгаса „Чырвоны сейбіт“ са святам „Дня ўраджаю“. Наш аэраклуб прасіў перадаць, што мы бярэм над вамі шэфства, як над перадавым калгасам у раёне...

Па натоўпе прайшоў гул. Пачуліся воплескі. Федзька на хвіліну змоўк, каб перачакаць воплескі і зноў працягваў гаварыць. Ён заклікаў моладзь вучыцца лятаць, скакаць з парашута.

— Вось я,—сказаў Федзька,—ужо даўно лятаю. У першы раз мы з Сёмкам лятаалі на гусях. Тады я набіў на ілбе здаравенны гуз. Дзе тут дзед Сівоха? Дзякуй яму! Ён першы падаў думку аб палёце...

— Агу! Я тут!—пачулася з натоўпу. І дзед Сівоха, дабрадушна ўсміхаючыся, вышаў наперад...—Хо-хо! Здаровы былі, хлопцы!.. Ну, то раз да нас у госці, дык прашу агледзіць маю гаспадарку. Я цяпер не абы хто, а най-

лепшы з найлепшых ударнік. Я цяпер куравoдам. Пад маім распараджэннем і куры і гусі. У мяне куры такія яйкі нясуць,—па гарбузу. А гусі мае такія дужыя, што на іх, як на самалёце, можна лятаць...

— Не, дзед, больш на гусях я не палячу. А паляцім мы зараз на самалёце,—з гонарам сказаў Федзька.—Я сёння буду катаць на самалёце лепшых ударнікаў калгаса. Хто першы?

Сярод натоўпу падняўся радасны гул. Моладзь, хлопцы і дзяўчаты падступіліся бліжэй да самалёта і ўсе хацелі быць першымі. Тады старшыня калгаса ўсіх супакоіў і, падумаўшы, сказаў:

— Першым павінен ляцець дзед Сівоха. Ён у нас першы ўдарнік...

Дзед Сівоха збянтэжана падаўся задам у натоўп. Яго падхапілі хлопцы пад рукі і, хоць ён і вельмі ўпіраўся, падвялі да самалёта.

— Сядай, дзед!—сказаў Федзька.—Ну і пракачу-ж я цябе...

— Што вы! Што вы!—закрычаў дзед, замахаўшы рукамі.—Які з мяне ўдарнік? Я ім ні разу не быў. Хіба ў нас мала ўдарнікаў—няхай ляцяць. А пра мяне старшыня схлусіў—я ім не быў ні разу. Адпусціце, хлопцы, што я вам дрэннага зрабіў. Пайду дахаты хоць з бабаю развітаюся...

— Ну, дзед, не ўпірайся, усе просяць...

Дзед Сівоха доўга не згаджаўся. Нарэшце, патупіў галаву, апусціў бараду і сказаў:

— Ну, калі так, дык бывайце здаровы. Мне ўсёроўна скора паміраць. Жывіце сабе на здароўе, а я палячу. Не памінайце ліхам, каму што дрэннае зрабіў—даруйце, людзі добрыя!

Дзед сумна кіўнуў галавою і смела палез у кабінку.

— Ляці, дзед, не бойся!—крыкнулі яму.

Самалёт адарваўся ад зямлі і вялікай птушкай узвіўся ў ясным небе. І так лёгка, так прыгожа кружыў ён над полем, што моладзь ад зайздрасці высока падымала галовы ўгору і станавілася на дыбачкі...



А ў натоўпе гаварылі старыя бабулі:

— Ну і адважны-ж наш Сівоха!

— Ну і смелы!

— Ці будзе то ён жыў?

Калі самалёт апусціўся на зямлю, дзед Сівоха спакойна



вылез з яго без шапкі і, заморгаўшы павекамі, здзіўлена паглядзеў на людзей.

— Бачылі, як трэба лятаць,—сказаў ён.—Ніводзін волас на барадзе не скрануўся.

— А ты памацай на галаве, дзе твая шапка?

Дзед пагладзіў лысую галаву і сказаў:

— Тут усё ў парадку. Гэтая лысіна ў мяне ўжо гадоў сорак. А шапка, каб не звалілася, дык я сюды паклаў...

І дзед выняў шапку з-за пазухі.

— Ну, скажу я вам,—многа я страху бачыў у жыцці. Біў мядзведзяў, ласёў, ваўкоў, а такога страху ніколі не спытаў.

У натоўпе дружна зарагаталі.

— Вы што-ж,—пакрыўдзіўся дзед.—Думаеце, я па-сапраўднаму спужаўся? Гэта толькі адразу было, калі я ад зямлі адарваўся, дык шкода было вас адных пакідаць... А потым я ціханька песні спяваў... Хочаце, я і яшчэ магу паляцець...

Дзед Сівоха падаўся да самалёта, каб палезці ў кабінку.

— Даволі! Досыць!—закрычалі на яго і адцягнулі ў натоўп.—Не аднаму табе, а ўсім хочацца палятаць...

— Ну, то і добра!—весела адказаў дзед, выціраючы з твара буйны пот.— Я—чалавек стары. Ляціце ўжо вы!..

Пасля палётаў мы з Федзькам пайшлі аглядаць вялікую дзедаву гаспадарку—гусей і курэй. Дзед хваліўся, што яго куры нясуць яйкі большыя за гарбузы.

— Ну, можа меншыя як гарбузы, затое большыя як сапраўдныя курыныя яйкі, бо ў мяне куры ўсе пародзістыя і даглядаю я іх—лепш не трэба... Кармлю я іх не так, як другія, адным сенам, а і аўса падсыпаю... Затое як запражэш у калёсы на базар ехаць, дык віхрам імчаць. Таго і глядзі, каб яек не раздушыць...

— Што?—спыталі мы.—Ты і курэй запрагаеш у калёсы?

— Ды не, дзівакі вы! Гэта я пра коняй, на якіх у горад на базар яйкі адвожу...

— Ты, дзед, якім быў жартаўнікам, такім і астаўся...

— А што?—схамянуўся дзед.—Можа не верыце? Хіба я вам калі-небудзь хлусіў? Шукалі вы зачараваны скарб на маім гародзе... Паглядзіце цяпер, які там скарб расце: качаны капусты во якія і агуркі, як горы, ляжаць. Лягалі вы на гусях, а цяпер лятаеце на самалётах. Дзе-ж тут падман? Я—чалавек справядлівы.

Калі мы пад вечар развіталіся з дзедам, ён з сумам сказаў:

— Не забывайце хлопцы, нашай дружбы. Старая дружба ніколі не ржавее. Прылятайце яшчэ да нас. Калі буду жыў-здароў, набяруся адвагі і яшчэ праляцім.





# ШАЛЁНЫ ШАКАЛ

*Апавяданне А. Петрова*
*Рысункі В. Ціхановіча*

Я быў на паляванні ў паўднёвай частцы Індыі.

Сярод гор вілася вузкая рэчка, заросшая густым хмызняком, а на беразе скалы відаць было ў зелені невялікае індускае паселішча.

— Саіб, вы, мусіць, стаміліся?—спытаў мяне праваднік.

— Так, трохі; пара вярнуцца ў паселішча,—сказаў я.

У гэты час з даліны ўзнялася чарада дзікіх паўлінаў.

— Іх нехта напужаў,—заўважыў праваднік.

Паўліны паляцелі ўніз па даліне і зніклі за паваротам.

Далёка ў кустах пачуўся трэск. Праз хвіліну каля нас віхрам прамчалася некалькі аксісаў (плямістых аленяў).

— Што гэта азначае?—дзівіўся праваднік. Ён не паспеў сказаць гэта, як шагоў за дзвесце ад нас, на галінах дрэва, што расло ў даліне, мільгануў вялікі цёмны звер.

— Леапард!—паціху ўсклікнуў праваднік.

— Значыцца, гэта ён напужаў аксісаў і паўлінаў?

— Не, саіб; леапард сам напалохан. А то ён не стаў-бы сярод белага дня лазіць па дрэвах.

Мне хацелася забіць драпежніка, але праваднік памахаў галавой.

— Нам не ўдасца непрыкметна падыйсці да дрэва,—сказаў ён.—А галоўнае ў даліне небяспечна; нездарма адтуль уцякаюць звяры і птушкі.

— Якое-ж страшыдла бадзяецца там?

Праваднік хутка паказаў у бок забалочанай прагаліны. Па ёй улукаткі прамчалася некалькі жывёлін, велічынёю з сабаку.

— Я так і думаў!—усклікнуў праваднік:—шалёны шакал!

— Хіба гэты труслівы звер бывае небяспечным?

— Ой, саіб, шалёны шакал—самы страшэнны звер,—страшней за кракадзіла і леапарда!.. Калі шакал шалее, ён нападае на самых дужых звяроў. Ад яго ўцякае нават тыгр, а буйвалы строяцца ў баявую гатоўнасць і нападаюць на яго, як на лютага ворага.

Шакал знік у кустах. Потым ён прамільгнуў каля невялікага возера і накіраваўся да стада кароў і авец, якое пасвілася ля гары.

— Бяда, саіб: там пастушкі, дзеці!..—з трывогаю сказаў праваднік.

Мы з усяе сілы пабеглі к стаду. Каля рэчкі з-пад маіх ног выбегла і боўтнула ў ваду двухмятровая яшчарыца, падобная на кракадзіла.

— Хутчэй, саіб, хутчэй!—падганяў мяне праваднік.

Мы пабеглі па пясчаным беразе рэчкі. З-за кустоў з трупа казы цяжка ўзняліся ў паветра велізарныя грыфы з голымі яркачырвонымі шыямі. Калі мы абмінулі труп, птушкі зноў зляцеліся і па-ранейшаму спраўлялі баль.

Я задыхаўся ад стомленасці і спёкі. Нарэшце дабеглі да стада.

— Мы перанялі шакала,—сказаў я.

Раптам стары бык, які ляжаў пад дрэвам у цяньку, усхапіўся на ногі і глуха зароў. У стадзе пачаўся перапалох: каровы мігам акружылі цялят, а быкі, задраўшы хвасты, бегалі паміж кустоў і раўлі.

— Трэба знайсці пастушкоў,—крыкнуў праваднік.

Дзеці, устрывожаныя шумам, выбягалі з кустоў, дзе яны рабілі шалаш.

— Сюды! сюды!—закрычаў праваднік і, што меў сілы, кінуўся да іх насустрач.



*Ад шалёнага шакала ўцякае нават тыгр.*

Спуджанае стада авечак уцякала з лесу. З высокай травы выскачыў шакал. Ён сеў на заднія лапы, а пярэднімі пачаў махаць перад носам, нібы адганяючы мух.

Бык раптоўна наляцеў на яго і ледзь не падняў на рогі. Шакал адбег і, пераскочыўшы праз роў, памчаўся да пастушкоў. Хлопчыкі з крыкам кінуліся назад. Але гэтым часам ужо адусюль ляцелі быкі. Шакал замітусіўся паміж імі і схаваўся ў лясістым рове, на дне якога працякаў ручаёк. Быкі пагналіся за ім; да нас доўга даносілася іх рыканне то з аднаго, то з другога месца лесу.

— Не адыходзьце ад стада ні на шаг,—загадаў пастушкам праваднік.— Калі шакал зноў з'явіцца, хавайцеся між цялят: каровы абароняць іх ад шакала, а разам з імі і вас.

Нарэшце быкі пачалі варочацца назад. Адзін з іх, стары, нечакана апусціў рогі і з такою лютасцю накінуўся на мяне, што праваднік ледзьве адагнаў яго.

— Быкі разгневаны,—сказаў праваднік.—Хадзем адгэтуль, саіб.

Мы пайшлі ў паселішча. Даведаўшыся пра шалёнага шакала, старшыня паслаў на дапамогу пастушкам двух чалавек, узброеных тоўстымі каламі. Жыхары занепакоіліся; маткі склікалі дзяцей і наказвалі ім не адыходзіць ад хаты.

Сонца апусцілася за горы. Стада вярнулася ў паселішча і, падымаючы пыл, разышлося па дварах.

Я павячэраў і сеў на лаўку каля дзвярэй хацінкі. Надыходзіла ноч. Поўны месяц асвятляў паселішча і даліну з рэчкай. На дрэвах і ў траве безупынна стрыкаталі цыкады (падобныя на нашых конікаў) і прыемна звінелі маленечкія жабкі на дрэвах.

Раптам у канцы паселішча пачуліся брэх і візг сабачай грызні. У гэтую-ж хвіліну на ўсіх дварах забрахалі і завылі сабакі.

Праваднік усхапіўся з лаўкі і прыслухаўся.

— У паселішча ўбег шалёны шакал!—крыкнуў ён.—Саіб, чуеш? Так брэшуць сабакі, як пачуюць шалёную жывёлу.

Я скоранька набіў двухстволку і мы пабеглі ў канец паселішча. Там чуваць былі ўстрывожаныя чалавечыя галасы і жаночы крык.

Вуліца была заліта месячным святлом, але пад дрэвамі, што раслі з бакоў вуліцы, ляжалі густыя цені.

— Асцярожней, саіб: шакал можа выскачыць з боку,—сказаў праваднік, несучы на плячы даўгую, як піку, палку.

Мы сустрэлі групу людзей, таксама ўзброеных палкамі і каламі.

— Шакал прыбег да берагу рэчкі,—паведаміў мне праваднік, перагаварыўшыся з людзьмі.—Ён пагрызся з сабакамі, а потым убег у хату і пакусаў жанчыну, якая давала есці дзіцяці. Цяпер ён бегае недзе па садах.

Лявей ад нас зноў пачулася грызня сабак. Мы пабеглі па вузкім завулку, але спазніліся. Сярод двара брахаў і пішчаў дужа пакусаны сабачка; яго акрываўленая шэрсць стаяла дубка. Гаспадар расказваў, што шакал быў кінуўся на карову але яна адкінула яго рагамі.

— Трэба вярнуцца на вуліцу,—падаў голас праваднік,— шакал канешне выбяжыць на яе.

Жыхары спалохана выглядвалі з хат. Многія мужчыны, з каламі ў руках, паўзлазілі на вароты і платы, каб перашкодзіць шакалу напасці на жывёлу.

Мы спыніліся на перакрыжаванні. Галоўная вуліца крута заварочвала к рэчцы. Левы бок яе быў цёмны, і толькі дзе-ні-дзе гэтую цемень пранізвала палосамі і плямамі месячнае святло.



*Я выстраліў, але прамахнуўся.*

Я прыслухоўваўся да голасу сабак і паглядаў ва ўсе бакі. Раптам мне здалося, што праз светлую пляму на ўзгорку вуліцы прашмыгнула нейкае цёмнае цела. Я настаражыўся. Цёмнае цела мільганула яшчэ раз, потым яшчэ і яшчэ... Вочы не ашуквалі мяне: па ценявым баку вуліцы хутка бегла невядомая жывёліна.

Я адвёў абодва куркі. Праваднік стаяў на другім баку вуліцы і, абапёршыся на палку, глядзеў кудысьці ў бок.

Вось зашалясцелі апаўшыя пальмавыя лісты і на асветленае месца выскачыў... шакал! Ён быў за шагоў трыццаць ад мяне. Яго вочы блішчалі, як вуглі, а з разяўленага рота цякла пена. Ён павярнуў галаву, убачыў мяне і адразу-ж, хрыпла зарычэўшы, кінуўся ў мой бок.

Я выстраліў, але прамахнуўся. Шакал паспеў прабегчы палавіну дарогі да мяне, пакуль я выстраліў з другога ствала. Цяпер шакал закруціўся ў пяску і пачаў высока падкідацца пярэдняй часткай тулава.

— Сцеражыцеся, сцеражыцеся, саіб!—крычаў праваднік, падбягаючы да мяне.

Шакал перастаў кідацца і папоўз да мяне на пярэдніх лапах (заднія цягнуліся па зямлі). У мяне не было больш набояў; я міжвольна адступіў назад, да плоту. Шакал хроп і поўз, гледзячы на мяне сваімі страшнымі вачыма.

Праваднік падышоў да яго і з размаху ўдарыў палкай па галаве. Шакал ткнуўся мордаю ў зямлю. Праваднік ударыў яшчэ і яшчэ раз з такою сілаю, што каля морды шакала расплылася лужына крыві.

— Скончана,—сказаў праваднік.

Збегліся людзі і доўга гутарылі, глядзелі на пераможанага ворага.

Раніцаю шакала пацягнулі на вяроўцы ў канаву. Не паспеў ён скаціцца на дно, як з сіняе пrасторы адзін за другім пачалі злятацца грыфы і сцервятнікі. Праз гадзіну-дзве ад шакала засталіся адны косці.

Я пайшоў праведаць жанчыну, на якую напаў быў шакал. На шчасце, шакал не ўкусіў яе, а толькі парваў „соры“ (спадніцу).

Потым, як толькі апала раса, я пакінуў паселішча і пайшоў з праваднікам зноў на паляванне на леапарда.





# Дзяцел і Совы

*(НАРОДНАЯ КАЗКА)*

Стук-стук-стук!.. стукаў дзяцел сваёю цвёрдаю дзюбай у дрэва, так моцна стукаў, ажно водгулле ішло па ўсім лесе.

— Дай-жа нам, дзяцел, паспаць! Мы ўсю ноч працавалі!—прасіліся совы з дупла.

— Хто-ж гэта спіць сярод белага дня!—здзівіўся дзяцел і давай яшчэ мацней стукаць носам па дрэве.

— Пачакай-жа,—казалі совы,—мы табе адплацім!

Настала ноч. Усе птушкі спалі—спаў і дзяцел у сваім гняздзе. У лесе было ціха і цёмна. Але совы добра бачаць у цемры, яшчэ лепш, чым удзень. Падкраліся совы да дзятла і давай кугакаць яму над самым вухам:

— Ку-га! ку-га! ку-га! ку-га!

Адна сава плакала, як малое дзіця, другая дзіка рагатала, а трэцяя гула над дзятлам так, ажно страх яго ўзяў.



Такім чынам дзяцел усю ноч не мог заснуць.

„Пачакайце,—думаў дзяцел,—заўтра удзень я вам адплачу“.

Гэтак праходзіў дзень за днём, ночка за ночкай, і ні дзяцел, ні совы не маглі спаць.



# ПРА ХІТРАГА ВОВУ І ПРА ЖУЧКОЎ

*Апавяданне У. Краўчанкі*

*Рысункі А. Волкава*

У калгасе „Новы Сад" жыў маленькі хлопчык Вова. Быў гэты Вова хлопчыкам хітрым і здагадлівым, як лісіца. Але-ж вось толькі ніколі яму не шанцавала. Так, аднойчы ён убачыў, што ад кватухі адбілася прыгожае жоўценькае кураня. Захацелася яму з гэтым кураняткам пагуляць. Хітры Вова паклікаў яго ў бок, каб не заўважыла старая курыца, і схапіў яго. Але-ж куранятка піснула. Квактуха гэта пачула, і Вова ледзь не загінуў у яе кіпцюрах.

І вось гэты Вова ўбачыў неяк у горадзе (браў яго бацька адзін раз у горад) у прыродазнаўчым музеі калекцыю розных жучкоў, казюлек, матылькоў. Насмешлівымі вачыма Вова паглядзеў, паглядзеў на ўсё гэта ды і кажа:

— І што тут цікавага! Звычайныя казюлькі. Вунь рабенькая „кароўка", а вунь конік-скакунец...

Прыехаў Вова з горада і парашыў сам налавіць казюлек, змайстраваць скрынку і размясціць іх там. „Зраблю калекцыю не горшую за тую, што ў горадзе",—думаў хітры Вова.

Назаўтра-ж назбіраў ён штук шэсць скрыначак з-пад запалак, братаў пенал узяў ды пабег на луг. Быў пагодлівы сонечны дзянёк. Увесь луг быў укрыты сіненькімі, жоўценькімі, чырвоненькімі кветачкамі. Лёганькі ветрык варушыў іх махрастыя галоўкі, але кветачкі выкручваліся ад яго, стараючыся абярнуцца тварыкамі да сонца. Пакручастаю істужкаю пераразвала луг сіняя рэчка. Клапатлівыя, дробненькія хвалькі беглі па рацэ.

Але Вова прыбег на луг не для таго, каб любавацца прыгожымі кветкамі, сонцам ці рэчкай. Яго цікавіла другое. Як толькі ён ступіў на траву, з-пад ног у яго з трэскам сыпанулі конікі.

„Злаўлю парачку“—падумаў Вова і прыгледзеўся, дзе сеў адзін з конікаў, зялёны, вялікі, з пукатымі вачыма. Конік сеў недалёка ў траве і не бачыў, як набліжаўся да яго Вова. Здагадлівы Вова адразу-ж прыдумаў, як яму злавіць гэтага коніка: „Накрыю шапкай, а тады ў каробачку“. Але выканаць план аказалася не лёгка. Конік, мабыць, глянуў на вовіну шапку, падрыхтаваныя скрынкі і парашыў, што гарцаваць па лузе яму куды лепш, чым сядзець у цёмнай скрыначцы. Вось чаму, як толькі падышоў да яго Вова, конік скокнуў убок на метраў два. Вова за ім—ён у другі бок—скок!

Бегаў, бегаў Вова за конікам, аж упацеў, думаў змарыць яго, але-ж сам змарыўся хутчэй. „Падумаеш, цаца вялікая—конік, і без яго абыйдуся“—заспакоіў сябе Вова. Як раз у гэты час каля яго праляцеў прыгожанькі чырвоненькі матылёк, і Вова пагнаўся за ім. Матылёк пырхае з кветачкі на кветачку, і Вова з шапкаю ўслед бяжыць па лузе. Сядзе матылёк, а Вова ўжо хутчэй накідваецца з сваёю магутнаю зброяй. Але пад шапкаю заўсёды Вова знаходзіў толькі прымятую кветачку ці травінкі, а спалоханы матылёк пырхаў далей.

Доўга не шанцавала Вове. Страціўшы надзею, ён амаль не адрокся ад задуманага плана. Але вось адзін раз, калі Вова пагнаўся за матыльком і, з-пад ног кінуліся ўрассыпную конікі, дык адзін з іх з перапалоху, відаць,—скок!—і проста Вове ў шапку. У Вовы аж сэрца ад радасці мацней забілася. Злавіў ён коніка ў шапцы і запёр у скрыначку. У маленькую шчылінку глянуў і ўскрыкнуў:

— Ды гэта-ж той самы, за якім я ганяўся. І вусікі тыя, і вочы лупатыя, і сам зялёны.—І ўжо поглядам пераможцы Вова акінуў луг: „Скора ўсіх вас тут пералаўлю“.

---

Цэлыя тры дні паляваў Вова ў лесе, на полі, на лузе, ля ракі за жучкамі і казюлькамі. Налавіў іх аж дзесяць скрыначак з-пад запалак і поўны братаў пенал. „Будзе такая калекцыя, што і гарадская не дакажа. Усе будуць дзівавацца“, радасна думаў Вова.



Цэлы дзень майстраваў ён даўгую і вялікую скрынку, падобную на тую, якую бачыў у горадзе. У ёй Вова збіраўся размясціць усіх жучкоў.

Нарэшце скрынка была гатова.

Але вось тут Вова і стрэўся з галоўнай перашкодай у сваёй рабоце. Раней чым прыколваць жучкоў да скрынкі, іх трэба было забіць, а гэтага Вова ніяк зрабіць не можа. Нізавошта ён не згадзіўся-б праліць бязвінную жучэчую кроў.

„Можа яны ўжо самі памерлі з голаду?“—абнадзеяна падумаў Вова. Але з раскрытага пенала бадзёрым шагам накіраваўся да святла жук-

аленерог, а за ім цэлая армія жучкоў. Вова ледзь паспеў закрыць накрыўку пенала. З крыху раскрытай скрынкі вырачыў на Вову вочы зялёны конік.

Вова сеў над сваімі скрынкамі і глыбока задумаўся.

---

Што-ж тут рабіць? Як можна забіць жучкоў бяскроўным спосабам? Доўга сядзеў Вова і думаў, пакуль не парашыў ісці прасіць парады ў знаёмага студэнта, які жыў па суседству. Той якраз сядзеў у садзіку і чытаў кніжку.

Вова расказаў яму пра сваю калекцыю. Студэнт на хвілінку задумаўся.

— Гм... Справа ў тым, Вова, што такой калекцыі, як у горадзе, ты не зробіш. Тая калекцыя мае навуковае значэнне. А ты толькі дарэмна заб'еш жучкоў.

Студэнт гаварыў павольна і ціха.

— Каб я быў на тваім месцы, Вова, я выпусціў-бы ўсіх гэтых жучкоў.

Вова адразу спахмурнеў і ледзь не расплакаўся.

— Ну, калі ты ўжо так жадаеш, я магу табе дапамагчы,—сказаў студэнт. Ён устаў з зэдліка і зайшоў у хату. Праз хвіліну вынес адтуль нейкую бутэлечку з мутнаватай, жоўтага колеру вадкасцю.

— Вось,—сказаў ён, падаючы Вове бутэлечку,—у гэтай бутэлечцы атрута. Вылі яе ў талерку і няхай жучкі нап'юцца. Варта якому-небудзь жучку каўтануць адзін раз гэтай атруты, як ён зараз-жа загіне.

З радасцю Вова схапіў бутэлечку і пабег дамоў. Студэнт-жа глядзеў услед Вове і нечага ўсміхаўся.

---

Ціхенька, каб не бачыла маці, Вова ўзяў з шафы чыстую белую талерку, пабраў усе скрыначкі з жучкамі, бутэлечку з атрутай і пабег у садок. Страшную, мутную вадкасць—моцная атрута!—выліў у талерку і пачаў вымаць з скрыначак жучкоў. Яркае сонечнае святло разанула ў вочы жучкам пасля іх цямніц-скрыначак. Змучаныя няволяй, яны ў першы час слухалі Вову. Ён пасадзіў іх усіх на беражках талеркі, у якую была наліта атрута. Гультаявата варушыў нагамі аленерог. Клыпаў вусікамі хітрун-конік—ён ужо майстраваўся, куды-б гэта скокнуць у зялёную траву, але, паглядзеўшы на сваіх спакойных суседзяў па зняволенню, з уцёкамі парашыў пачакаць.



З боку, цяжка дыхаючы і высалапіўшы ад спёкі язык, сядзеў Лыска. Ён удумліва пазіраў на ўсю вовіну работу, нібы разумеў, што тут робіцца вялікая справа.

Счакаўшы роўна столькі часу, колькі патрэбна, каб добра ўволю напіцца атруты, Вова разаслаў газету і пачаў па аднаму вымаць і класці на яе мокрых жучкоў. „Тут яны будуць спакойна паміраць"—парашыў хітры Вова. А сам, каб не бачыць страшэнных мук, адышоўся ўбок.

Раптам ззаду пачуў ён нейкі дзіўны гук:—цяп-цяп, хляп-хляп цяп-цяп!..

Вова азірнуўся і ледзь не абамлеў... Лыска, добры, харошы Лыска, любімы Лыска з смакам каўтаў і ўжо хліпаў астаткі смяртэльнай атруты!..

— Не пі, Лыска!—моцна крыкнуў Вова.

Лыска спачатку спалохана адскочыў, але пабачыўшы, што нічога асаблівага не здарылася, спакойна адагнаў вухам надакучлівую муху, апусціў уніз галаву і сеў на тым месцы, дзе стаяў.Ываліўшы язык, ён пачаў па-ранейшаму моцна дыхаць. Тут Вова і зусім ужо спалохаўся. „Мусіць, памірае"—падумаў ён.

— Бедны, бедны мой Лысачка, загінеш ты, міленькі...

Вове ўжо не на ўме была ні яго калекцыя, нічога на свеце. Ён гладзіў па галаве лахматага Лыску, а той сабе спакойна, але цяжка дыхаў. Потым ён успомніў аб сваіх жучках і парашыў пацікавіцца, ці ўсе ўжо яны паўміралі. Ён устаў, падышоў да вішні, каля якой на газеце былі жучкі, глянуў і... на газеце не ўбачыў амаль ніводнага жучка. Апошні нейкі рабенькі жучок, які, мусіць, вымак больш за ўсіх і даўжэй за ўсіх высыхаў, цяпер даваў лататы наўскасяк газеты ў траву...

— Як-жа гэта, а атрута?—усклікнуў Вова і падбег да талеркі. На дне там засталося крыху вадкасці пасля Лыскі. Вова прыгледзеўся да гэтай атруты і... з радасным крыкам ускочыў на рукі, перакуліўся цераз галаву, прабег на чацвярэньках, схапіў за вуха Лыску і праскакаў з ім нейкі вядомы толькі яму аднаму замысловаты танец.

— Ты будзеш жыць, Лысачка, ты будзеш жыць!—радасна крычаў Вова.

Як выявілася, студэнт даў Вове не атруты, а бутэлечку самай звычайнай сыроваткі! Пажартаваў ён з Вовы, але Вова быў гэтаму вельмі і вельмі рад: Лыска астаўся жывы.



# Цікава ведаць



## Якая расліна расце хутчэй за ўсё на свеце?

Ёсць такая трава: раніцаю выгляне з зямлі зялёны атожылак, а да вечара ён ужо выцягнецца амаль на поўметра ўгару. А праз тыдзень трава вырасце вышэй за чалавека, вышэй за каня, вышэй за хату. Траву гэту ведае кожны. З яе робяць кійкі для лыж, крэслы, сталы, этажэркі. Называецца гэта трава — б а м б у к. Атожылкі бамбука вельмі моцныя, а ў сярэдзіне ствалы — пустыя. Ад гэтага бамбук на вагу такі лёгкі. З бамбука робяць вядзёркі, вадаправодныя трубы. а самыя маладзенькія атожылкі зразаюць на палкі (тростачкі).

Радзіма бамбука — Індыя. У нас бамбук расце ў Закаўказзі. Каля Батума шалясціць самы вялікі ў СССР бамбукавы гай.



## У якога рака ногі даўжэй за твае?

Ёсць такі рак, называюць яго крабам. Жыве гэты велізарны краб у Японскім моры. У яго кожная нага не менш за метр даўжынёю. А калі расцягнуць яго ногі ў бакі, дык ад канца адной нагі да другой будзе метраў тры. На рысунку — японскі краб, а каля яго наш рэчны рак. Бачыш які маленькі рак, а зменшылі для рысунка і яго і краба аднолькава. Вось і ўяві сабе, якое вялікае стварэнне—краб. Добра яшчэ, што клешні ў яго не па росту маленькія. А то ён мог-бы клешнямі адарваць руку.

**ІСКРЫ ІЛЬЫЧА**

**ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ**
**ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ**

**ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ**

**ЛІСТАПАД 1935 № 11**

Цана 30 кап.



# ХТО ХУТЧЭЙ




З гэтых шасці фігурак можна скласці шмат цікавых рысункаў—зорку, домік, шапку, карандаш і іншыя. Паспрабуйце гэта зрабіць. Фігуркі нарысуйце на тоўстай паперы або картоне, тады складвайце. Можна нават наладзіць цікавую гульню—хто хутчэй складзе ўсе рысункі—тыя, што надрукаваны ніжэй. Прыдумайце самі новыя рысункі, якія можна скласці з гэтых фігурак.



Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 24.200 экз. Заказ № 991. Уп. Галоўлітбела № Б—3605